# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 7 (677) 16 ЛЮТАГА 1969 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### 11 МАЯ Г.Г. — VI З'ЕЗД БГКТ

У Прэзідыуме Галоўнага праўлення паінфармавалі нас, што VI з'езд Беларускага таварыства адбудзецца 11 мая 1969 года. З'езд падсумуе трохгадовую дзейнасць БГКТ у Польшчы і накрэсліць далейшыя напрамкі працы. На з'ездзе будуць выбраны новыя ўлады Галоўнага праўлення Беларускага таварыства.

### ІНСТРУКЦЫЯ

Прэзідыум ГП 1.II.1969 года выдаў інструкцыю ў справе справаздачна-выбарчай кампаніі. І так, выбары ў гуртках павінны закончыцца да канца сакавіка, а справаздачна-выбарчыя канферэнцыі аддзелаў да 30-га красавіка. Гурткі Беларускага таварыства выбіраюць старшыню, сакратара і скарбніка, а таксама дэлегатаў на канферэнцыю аддзелаў. Аддзелы выбіраюць праўленні аддзелаў, а праўленні выбіраюць 3—5-асабовыя прэзідыумы праўленняў. Тыя гурткі, якія ўтварыліся пасля 31.XII.1968 года, выбараў не праводзяць. Выбіраюць яны толькі дэлегатаў на канферэнцыю аддзела.

Абавязвае наступны выбарчы ключ дэлегатаў на канферэнцыі аддзелаў. Гурткі БГКТ, якія налічваюць да 10-ці членаў, выбіраюць 1-го дэлегата, гурткі, якія маюць ад 11 да 30 членаў — выбіраюць 2 дэлегатаў. А тыя гурткі, якія налічваюць больш 30-ці членаў — 3-х дэлегатаў і адначасова беспасрэдна 1-го дэлегата на з'езд. Гурткі БГКТ, у якіх ёсць больш як 50 членаў, выбіраюць 2-х дэлегатаў на з'езд, а тыя, у якіх колькасць перавышае 150 членаў — 3-х дэлегатаў на з'езд.

Устаноўлена таксама наступныя прадстаўніцтвы паасобных аддзелаў на VI з'езд Беларускага таварыства.

Гарадскі аддзел у Беластоку павінен выбраць 18 дэлегатаў і можа запрасіць на з'езд 5 гасцей. Бельскі аддзел — 32-х дэлегатаў і 8 гасцей, Гайнаўскі — 42-х дэлегатаў і 12 гасцей, Дуброўскі — 3-х дэлегатаў і 1-го госця, Гарадоцкі — 4-х дэлегатаў і 2-х гасцей, Міхалоўскі — 3-х дэлегатаў і 1-го госця, Мілейчыцкі — 10 дэлегатаў і 4-х гасцей, Гданьскі гурток БГКТ — 2-х дэлегатаў, Сакольскі аддзел — 8 дэлегатаў і 3-х гасцей, Варшаўскі — 4-х дэлегатаў і 2-х гасцей.

Усе дэлегаты на з'езд БГКТ выпаўняюць спецыяльныя анкеты, пераказваюць іх праўленням аддзелаў.

Усе члены ўступаючага Галоўнага праўлення незалежна ад таго будуць яны ці не будуць выбраны на дэлегатаў — удзельнічаюць у з'ездзе.

Інструкцыя прэзідыума ГП адносна справаздачна-выбарчай кампаніі дакладна, а нават падрабязна гаворыць аб усіх справах выбарчай кампаніі.

### 2.III.1969 — КАНФЕРЭНЦЫЯ ГАРАДСКОГА АДДЗЕЛА БГКТ У БЕЛАСТОКУ

Першая справаздачна-выбарчая канферэнцыя адбудзецца ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку 2.III.1969 года ў памяшканні Галоўнага праўлення. Запрашаюцца на канферэнцыю ўсе члены Беларускага таварыства.

### СТАРШЫНЯ АДДЗЕЛА

Вельмі важнай справай, мо нават галоўнай, з'яўляецца трапны выбар старшыні аддзела. Ад яго тактоўнасці, умення вакол сябе аб'ядноўваць людзей, ад яго арганізатарскіх здольнасцей, ад яго аўтарытэту і падыходу да людзей, ад яго культуры і патрабавання культурных паводзін усяго праўлення, ад ветлівых адносін да членаў, а перш за ўсё да актыву — ад гэтага ўсяго, не ў малой ступені залежыць праца аддзела і рост яго аўтарытэту. (мх)




Гістарычны лёс розных раёнаў цяперашняга Беластоцкага ваяводства склаўся па-рознаму. Паветы: Элк, Голдап і Алецка знаходзіліся пад уладай Усходняй Прусіі; паветы: Аўгустаў, Граева, Кольна, Ломжа, Сейны, Сувалкі, Замбраў і Высокае-Мазавецкае былі часткай т.зв. Кангрэсавага Каралеўства, утворанага ў 1815 г. пасля разгрому Напалеона; паветы: Дуброўскі, Гайнаўскі, Беластоцкі, Бельскі, Лапскі, Манецкі, Сакольскі і Сямяціцкі на працягу 125 год рускія цары лічылі неадлучнай часткай сваёй імперыі.

Гісторыя змяла з вобліку зямлі розныя імперыі і каралеўствы. Усе раёны Беласточчыны зноў знайшліся ў межах адзінай дзяржавы. Аднак гістарычная спадчына пакінула на іх гаспадарцы сваё кляймо. Асабліва яскрава відаць гэта ў сістэме ўладання зямлёй. У цяперашнім Гайнаўскім павеце на адну гаспадарку прыпадае ў сярэднім па 33 палоскі, якіх велічыня не перавышае 20-ці сотых гектара. Гэта сярэдні паказальнік. Значыць, бывае яшчэ горш. У вёсцы Белкі, Гайнаўскага павета, жыве 88 гаспадароў. Зямлі яны маюць даволі многа. На адну гаспадарку прыпадае ім у сярэднім амаль па 12 гектараў. Дык што з таго, калі кожная гаспадарка парэзана тут больш-менш на 120 палосак, а велічыня такой палоскі — 9—10 сотых га. У іншых раёнах — хаця б у Сямяціцкім павеце, у вёсках Мікулічы і Рагачы гаспадаркі разбіты на 50—60 кавалкаў.

Такіх вёсак у Беластоцкім ваяводстве ёсць амаль 400. 30 тысяч гаспадароў, бы мухі ў павуціннай сетцы, бездапаможна скачуць з адной палоскі на другую. І так ужо дзеецца звыш сто год. Карэнні цераспалосіцы растуць ад славутай царскай зямельнай рэформы з 1864 года, калі была знесена паншчына, а надзел зямлі адбываўся ўчасткамі. Участкі патомкі дзялілі на ўсё меншыя палоскі, даходзячы неаднойчы да «васьмушак».

Сярод сялянскіх палосак знаходзіцца таксама зямля **дзяржаўная.** У рэестрах яе многа — амаль 90 тысяч га. А ў полі? Вазьмі знайдзі яе сярод іншых чэцвяртушак! А калі знойдзеш, дык што? Што з ёю зрабіць?

Неабходна яе згуртаваць у адным участку. Так зрабілі ў Новым Беразове на Гайнаўшчыне, у Дыдулях на Бельшчыне, у Дабрынёўцы, Беластоцкага павета, і ў іншых вёсках. Звыш 7 700 га дзяржаўнай зямлі знайшлося такім чынам ва ўладанні прававітага гаспадара — дзяржаўных сельскіх гаспадарак, ПГР-аў. Амаль 6 тысяч гектараў пераняді да калектыўнай апрацоўкі спулдзельні прадукцыйныя і сельскагаспадарчыя гурткі.

Пачынаючы ад 1965 года праведзена абмен і камасацыю зямлі амаль у 120 вёсках Беластоцкага ваяводства. Гэта вялікая, адказная і карпатлівая праца. Вёска Капітаншчына ў Гайнаўскім павеце першая ў нашай краіне правяла хутарызацыю зямлі па прынцыпу «гектар за гектар». Назвалі гэта **грамадскай камасацыяй.** Ідэя аказалася плённай. Да 1968 года з гайнаўскага прыкладу скарыстала аж 23 вёскі ў шасці паўднёва-ўсходніх паветах. Затым гайнаўскі вопыт стаўся асновай адной з трох так званых **студзеньскіх сеймавых пастаноў з 1968 года па справе сельскай гаспадаркі.** Грамадская камасацыя стала законам. Пачалося актыўнае наступленне на павуцінную сетку сялянскіх палосак. Год 1968 — 30 тысяч гектараў. Праца праходзіла спраўна. Гэта дазволіла перавыканаць план. Дзякуючы гэтаму скарыстала, для прыкладу, вёска Карыціск у Гайнаўскім павеце. Яе гаспадары маюць разам звыш 500 га зямлі. Сёлеташні плён будуць збіраць ужо на хутарах.

Год 1969. Наступленне на цераспалосіцу ідзе яшчэ шпарчэй. Амаль 47 тысяч гектараў у 84 вёсках. Найбольш у Сакольскім павеце — 15 вёсак, у Бель-

Працяг на стар. 4

НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

## ШКОЛА І МОЛАДЗЬ

Надвячорак 25-га студзеня. Пад нагамі трашчыць мароз. Па завеяных дарогах ідуць да Пасынак людзі, ідуць групамі і ў паасобку. У Пасынках свайго роду свята, свята культуры, да якога рыхтавалася моладзь не толькі Пасынак, але Трашчотак і Сакоў. Сёння свае вясковыя хлопцы і дзяўчаты ў ролі артыстаў. І найцікавей сваім сваіх пабачыць, пабачыць, як яны справяцца.

З вялікім зацікаўленнем ехалі і мы ў Пасынкі, а з намі і пісьменнік Алесь Барскі. Маральна забавязвала нас да прыезда, між іншым, і тое, што мастацкія выступленні падрыхтаваны ў гонар VI з'езда Беларускага таварыства. Гэтак было напісана ў запрашэнні, якое прыйшло ў нашу рэдакцыю.

Вось гэтае свята беларускай культуры адкрыла кароткай прамовай настаўніца Аляксандра Панасюк. Гаварыла яна аб дзейнасці Беларускага таварыства, аб набліжаючымся з'ездзе і аб першых сённяшніх выступленнях аматараў у гонар яго.

Настаўніца скончыла прамову і тады на сцэну ўвайшла харавая група, якая складаецца з наступных асоб: Марысі Сідарук, Івана Пятроўскага, Лёні Пракапюка, Марысі Данілюк, Валі Весялоўскай і Мікалая Шаховіча. Выконвалі яны беларускія, рускія і польскія песні.

На асаблівае падкрэсленне заслугоўвае салістка Марыся Сідарук, якая моцным і прыгожым голасам захапляла ўсіх прысутных. Харысты выступалі некалькі разоў. Рыхтавала іх настаўніца Зінаіда Вайшковіч.

Наступным пунктам мастацкай часткі была п'еса «Гарадскія госці», у якой выконвалі паасобныя ролі: Іван Весялоўскі, Валя Весялоўская, Уладзімір Весялоўскі, Мікалай Дамброўскі, Ніна Ясвіловіч, Андрэй Манаховіч і Іван Пятроўскі. Прысутныя жыва рэагавалі на змест п'есы, бо яна закранала сучасныя справы.

Далейшым нумарам праграмы была гумарыстычная пастаноўка «Мікітаў лапаць». Добра выконвалі свае ролі і Ніна Грыгарук, і Андрэй Манаховіч, і іншыя. Але найбольш выклікаў смеху Уладзімір Весялоўскі ў ролі Мікіты. Ён так дасканала іграў і так добра ўчуўся ў гэтую ролю, што сваім мастацкім узроўнем перавышаў усіх аматараў.

Гэты ж самы Уладзімір Весялоўскі

Працяг на стар. 4



На паляванне. Фота: Э. Трыгубовіч

# ТРЫБУНА чытачоў

## ШКОЛЬНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

■ Урачыста святкавалі ў школах навагоднія ёлкі. І так дзеці з Плянты і акалічных вёсак 19 студзеня г.г. сабраліся разам са сваімі настаўнікамі і бацькамі ў чыгуначнай святліцы ў Нараўцы. З уступным словам і навагоднімі пажаданнямі выступіў настаўнік Аляксандр Самойлік. Дзеці выступалі з песнямі, вершамі, скетчамі і танцамі. Затым дзед Мароз раздаў падарункі і адбылася школьная патанцоўка.

* ✲ *

■ У прышкольнай святліцы ў Старым Ляўкове (таксама Гайнаўскі павет) школьнікі наладзілі ёлку 20 студзеня г.г. На ёлку запрасілі сваіх бацькоў і старэйшых сёстраў і братоў.

Апрача школьнікаў, якія далі шырокую і змястоўную мастацкую праграму, выступілі тут пад кіраўніцтвам настаўніка Мікалая Барташука дзеці з дзетсада. Потым былі інсцэнізацыі, вершы, гумар, лірычныя песні, навагоднія шопкі і г.д. Вельмі прыгожа спяваў рускія песні настаўнік рускай мовы Мікалай Варанецкі.

Прадстаўленне прысутныя суправаджалі бурнымі апладысментамі. Усе нумары мастацкай праграмы былі трапна і са смакам дабраны. Калі ўсе атрымалі падарункі і знік за дзвярыма дзед Мароз, пачалася маладзёжная забава і гульні.

**Янка Цялушэцкі**
**Новае Ляўкова**

* ✲ *

■ У апошнюю нядзелю студзеня ў крывяціцкай школе адбылася навагодняя ёлка для дзяцей. На ўрачыстасць сабралася многа грамадзян з Крывяціч і Мора. У 13-ць гадзін пачалася мастацкая частка, якую разам з вучнямі падрыхтавалі настаўніцы: Падолец і Вайшковіч. Вельмі прыемна было паслухаць вершаў, песень, скетчаў у выкананні школьнікаў. Добра выпала п'еса «Гарадскія госці» ў выкананні вучняў сёмага класа. Наогул артыстычная частка была добрая.

Пасля яе заканчэння традыцыйным звычаем дзед Мароз раздаў падарункі, а потым пачалася патанцоўка.

**Ваня Кірызюк**
**Крывяцічы**

## ЗІНКА

У Плёсках Бельскага павета ёсць многа здольных маладых людзей. Сярод іх знаходзіцца маладая дзяўчына Зіна Яканюк, адзіная дачка ў бацькоў. Славіцца яна на ўсю ваколіцу добрай прадукцыяй світраў. Мае спецыяльную машыну да гэтай работы. Заказваюць у яе світры з усяе ваколіцы. Славіцца Зінка і сваёй прыгажосцю.

**Я. Колька**
**з Бельскага павета**

## МІЛЕЙЧЫЦКІ ДРАМГУРТОК

Мілейчыцкі драмгурток, у склад якога ўваходзяць члены БГКТ, ЗМВ і гуртка вясковых гаспадынь, падрыхтавалі п'есу Юзэфа Кажанеўскага «Нарачоныя». З ёю выступалі ўжо ў сваёй асадзе. (мх)

## «ЛЯВОНІХА» Ў ДУБІЧАХ

Прыезд эстрады «Лявоніха» ў Дубічы Царкоўныя кожны раз сустракаецца з вялікай радасцю жыхароў вёскі. Таксама і на гэты раз, 21 студзеня, святліца хутка запоўнілася людзьмі. Выступленне артыстаў пачалося беларускай песняй «Лявоніха». Часта выступаў на сцэне з песняй і скетчам — Іван Блізнюк (ён родам з нашай вёскі). Усім спадабалася вясёлая артыстка Марыся Мароз, якая магла рассмяшыць кожнага з гледачоў. Таксама гарманіст Станіслаў Станкевіч прыгожа іграў на акардэоне.

Выступленне «Лявоніхі» працягвалася каля паўтары гадзіны і часта паўтаралася слова: Біс. Дадому ўсе ішлі ў вясёлым настроі.

**М. Панфілюк**
**Дубічы Царкоўныя**




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю ўжо 23 гады. Працую на вёсцы. Маю скончаных толькі 7 класаў пачатковай школы. Цяпер шкадую, што не пайшла вучыцца далей, аднак ужо позна. Сястра выйшла замуж у горад, а я засталася на гаспадарцы адна, а гаспадарка добрая, забудаванні таксама. Пазнаёмілася я з хлопцам з суседняй вёскі. Хлапец добры, ніхто аб ім дрэннага нічога не скажа. Таксама гаспадар добры. Быў у мяне ў допытах. Бацькам маім таксама падабаецца. А я сама не ведаю, што рабіць. Адразу нават і мела вялікую ахвоту выйсці за Мішу замуж, але нядаўна атрымала пісьмо ад Колі з войска. Гэта вельмі прыстойны хлапец, скончыў сярэднюю адукацыю, а цяпер у войску. Нічога, штопраўда аб жаніцьбе не піша, бо мы з ім сустрэліся толькі адзін раз у жыцці. Я чула, што на прысягу да яго прыехала некалькі дзяўчат (мяне таксама запрашаў, але добра што я і не паехала).

Што рабіць, Сэрцайка, ці выходзіць замуж за Мішу, ці чакаць, што будзе далей з Колем. Коля мне лепш падабаецца, бо вельмі прыстойны, а Міша добры. Бацькі вельмі хочуць, каб я выходзіла за Мішу.

**Тамара**
**з Сакольшчыны**

**Дарагая Тамара!** Паводле твайго пісьма, на Колю няма чаго спадзявацца. Гэта яшчэ малады хлапец і не сталы, калі мае аж толькі дзяўчат і ўсіх запрашае на сваю прысягу. А ў жыцці не важна прыстойнасць, не вонкавы выгляд чалавека, а яго характар. Таму ты не павінна і думаць аб Колі, а калі падабаецца Міша, дык і выходзь за яго замуж. Бацькі маюць рацыю.

**Жадаю ўсяго добрага**
**Сэрцайка**

<u>**Не толькі Хвядорына гора.**</u>

## ДРЭННА Ў ПЛЁСКАХ

Чытаючы артыкул Янкі з Плёскаў у 3 нумары «Нівы» за 13 студзеня 1969 года, хацелася б яшчэ некалькі слоў далажыць ад сябе. Не толькі Хвядора Раманюк асталася без апекі. Такіх, як яна, у Плёсках больш. Возьмем Рыгора Баруту. Ён застаўся адзінокім ужо некалькі год таму назад. Як ён жыве, проста цяжка гаварыць. Чалавек гэты не мае ў што апранущца і не мае чаго есці. Хаця мае сваякоў, аднак не відаць у іх зацікаўлення лёсам старога. Яны стараюцца не прызнаваць яго за сваяка.

Хацелася б успомніць яшчэ і аб Алесі Дзмітрук. Праўда, мае дзяцей, прыязджаюць, а як жа. Ды зноў ад'язджаюць пакінуўшы старую згорбленую маці. Чаму не могуць узяць яе да сябе? Чаму? Не ведаю гэтага. А ў Плёсках на чырвонай дошцы бялее надпіс: «Грамадскі апякун». Няўжо гэты апякун не бачыць гэтых людзей? Трапна Янка сказаў, што грамадскія апекуны ёсць, толькі не хочуць заўважаць чужога гора.

**Ваня**

## КЛУБ

Ці добра моладзі, калі ёсць у вёсцы клуб? Запытайцеся аб гэтым у плёскаўскай моладзі. У размове на тэму клуба не пачуеце энтузіязму. Прычына? Паспрабуйце зайсці да клуба, пераканаецеся самі. Калі ўвойдзеш з панадворку..., як кажуць, сякеру можна павесіць, столькі дыму. Сесці — гэта мары. На ўсіх століках у карты жараць. Каля іграючых па дзесяць «кібіцаў». Тэлевізар іграе, а як жа, цікавая праграма. Добра было б, каб адзін, два вечары, а то кожны вечар. У нядзелю, каб моладзь магла пагуляць, мовы няма. Старыя ў карты рэжуць, аж гул ідзе, а некаторыя проста, выгадна рассеўшыся, спяць. Наракаюць часта на моладзь, што па вёсцы валочыцца. Але дзе яна пойдзе? Старэйшыя клуб ператварылі на карцёжную.

**Аганёк**
**Плёскі**

Калі змесціце гэты артыкул аб клубе, не толькі я буду Вам удзячны, але ўся моладзь. Можа рушыць сумленне карцёжнікаў.

## Мікалай Аляксеюк



Мікалай Аляксеюк — гэта жыхар з Паўлаў, гаспадарыць ён пасучаснаму. Мае вялікую плантацыю трускалак. Кантрактуе жыта. Мае невялікі куратнік. Куратнік гэты цёплы і светлы. Штодзень Аляксеюк топіць у ім печ і ноччу запальвае святло. 25 курыц штодзённа дае 18 яек, што рэдка дзе сустракаецца.

Мікалай Аляксеюк мае ўсе гаспадарчыя машыны. Апрача таго матацыкл «Іж». Вясной плануе купіць самаход «Жук» або «Пікап».

**К. Яканюк**
**Паўлы**

## ...ЕДУЦЬ З ПЕСНЯЮ ДА СЯЛА

Ні снег, ні вецер не шкодзіць паўлаўскім аматарам гуртка. Нават зімой, калі задзьме дарогі снегам, яны выязджаюць у суседнія вёскі. Міла і весела праехацца ў зімовы марозны звонкі вечар санкамі па снезе. Дамоў часта вярталіся задаволеныя ўсе з песняю: «Ой мяцеліца, ой мяцеліца, усе дарожкі замяла»...

**Коля Яканюк**
**Паўлы**

## ГАЙНАЎСКІЯ ФОТААМАТАРЫ

У асенне-зімовы перыяд у Гайнаўскіх дамах культуры актыўна працуюць фотааматары. У Доме культуры «Гурнік» заняткі вядзе інструктар фатаграфіі Пётр Семянюк з Беластока. На курс запісалася больш 20 фотааматараў. Заняткі вядуцца ў добра абсталяванай фатаграфічнай працоўні ў кожную пятніцу. Фотааматары выстаўляюць свае найлепшыя працы ў вітрынах Дома культуры, робяць новыя фотавыстаўкі, звязаныя тэматычна з акружаючай рэчаіснасцю.

У Доме культуры «Ляснік» курс для фотааматараў вядзе інструктар Эдуард Панецкі. Моладзь пад яго наглядам не толькі навучылася добра фатаграфаваць, але і добра тэхнічна апрацоўваць здымкі. Усе маладыя фотааматары вельмі актыўна працуюць. Нічога тады дзіўнага, што ў іх Доме культуры многа фотавыставак і насценгазетак. Тут ёсць экспанаваныя здымкі з жыцця «закладовага» Дома культуры, пейзажы зімовай Белавежскай пушчы і г.д.

Фотааматары робяць здымкі з карнавальных гульняў, з баляў, якіх апошнім часам хоць адбаўляй. Іх імкненне — рабіць добрыя і арыгінальныя здымкі, шукаць новых форм фатаграфічнай экспрэсіі. Аб'ектаў да фатаграфавання юныя фотааматары шукаюць усюды. А гэта важна.

**Янцал, Гайнаўка**

(дакладнай даты не памятаю) бомбай уварваўся ў зямлянку Юльян Хількевіч — «Пётр».

— Таварышы, аблава! Немцы ідуць проста на вас! Уцякайце! — крыкнуў і ўжо хацеў уцякаць.

— Пачакай жа! Гавары з сэнсам: дзе аблава? адкуль ідуць? колькі іх? — пытаўся Смірноў.

— Каля дзвесце асоб. Выгрузіліся з самаходаў каля Нурца. Абстаўляюць лес з заходняга боку боцькаўска-мілейчыцкай дарогі. Будуць тут найдалей за паўгадзіны.

— Здаецца, што часаць лес пачнуць ад Нурца. У ніякім выпадку нельга вам адступаць на лес. Ідзіце праз багны на Вольку. Ну, мне пара: як зловяць у лесе, то капут. Да пабачэння!

Паслухалі мы яго рады, пашлі замёрзлымі багнамі ўздоўж ракі Нурэц.

Пасля двух дзён вярнуліся. Немцы не дайшлі да Кабыліх Галоў, абмінулі. Шукалі нас у вялікім лесе, не падазравалі, што зямлянка можа быць на пашы. Аднак ужо тое, што шукалі нас у гэтым лесе, прымушала задумацца. Нехта данёс! Не мог акрэсліць дакладнага месца, але ведаў, што мы ў гэтым раёне. Вывад: гэты нехта не з Нурца, не з Шашыл, не са Снежак. Відаць жыве далей. Віт таксама не мог даць ніякай інфармацыі. Цвярдзіў, што аблава была арганізавана непасрэдна Беластокам. Выпадак, ці не? Над гэтым сушылі мы галовы. У кожным выпадку як найхутчэй трэба мяняць месца.

Жыхары суседніх вёсак адносіліся да нас вельмі прыхільна. Пяклі нам хлеб, сціралі бялізну, латалі вопратку і абутак. Аб гэтай прыхільнасці прывяду такі факт. Некалькі дзён пасля аблавы — Нячаеў, Смірноў, Аблавацкі і я — вячэраем у вёсцы Снежкі. Гаспадар чалавек надзейны. Дзелімся з ім сваімі думкамі: трэба будаваць новую зямлянку. І тут гаспадар прапануе:

— Хлопцы, скажу па шчырасці. Я бедны, жыву, як бачыце, у хаце, якая ўлазіць у зямлю. Гадамі збіраў я дрэва, каб пабудаваць дзецям новы дом. Усё не меў за што, дрэва так і ляжыць. Бярыце яго, пабудуйце салідны бункер. Мы паможам. З нашай вёскі ніхто вас не выдасць. Сёння найважнейшае — разбіць немца. Пасля вайны неяк там будзе.

З яго дрэва на працягу некалькіх дзён пабудавалі мы новы, прыгожы бункер. Пабудавалі яго амаль у шчырым полі, на пясчанай, зарослай сасняком, дзюне, каля балот, паміж Снежкамі, Пятроўшчынай і Волькай. Кіраваліся тым, што немцам не прыйдзе нават у галаву шукаць нас на палях.

**Ян Анацік**

# КІНО

### БЕЛАСТОК

### БГКТ

«Лебядзеў супраць Лебедзева».

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Berlin" (radziecki), 18—19. „Dziewczyna" (węgierski), 20—21. „Barwy walki" (polski), 22—23.

**Дубіны**
„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 22—23.

**Нараўка**
„Intrygantki" (czeski), „Noc Iguary" (USA), 19—23.

**Нарва**
„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Nikt nie chciał umierać" (radz.) 19—23.

**Чыжы**
„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 19—23.

**Дубічы Царкоўныя**
„Sobótki" (polski), „Ach ci młodzi" (węgierski), 19—23.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Trzydzieści trzy" (radziecki), „Noc bez końca" (bułg.), 19—23.

**Орля**
„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 19—23.

**Райск**
„Szybsza od wiatru" (radz.), „Falstaff" (hiszpański), 19—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Szkarłatne godło odwagi" (USA), „Nieujarzmione miasto" (polski), 18—21.

**Міхалова**
„Nieujarzmione miasto" (polski), 18—19. „Barwy walki" (polski), 20—21. „Starsza pani bez godności" (franc.), 22—23.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Opowieść z nad Donu" (radz.), 18—19. „Agnieszka 46" (polski), 20—21. „Dzień w którym wypłynęła ryba" (grecki), 22—23.
15—16.

**Шудзялава**
„Hasło Korn" (polski), „Miałem 19 lat" (NRD), 19—23.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Weekend z dziewczyną" (polski), „Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 19—23.

**Новы Двор**
„Hrabina Cosel" (polski), „Spotkanie na przeprawie" (radziecki), 19—23.

**Ліпск**
„O czymś innym" (czeski), „Sami pośród miasta" (polski), 19—23.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7013

